Выдаецца з 16 студзеня 1998 г.
Галоўны рэдактар Ігар Германчук
Заснавальнік Павел Жук
Выдавец – рэдакцыя газеты НАВІНЫ
Наклад 22 020.
Адрас для карэспандэнцыі:
220088, г.Мінск,вул. Іванаўская, 56.
Тэл/факс: 236-89-40

# НАВІНЫ



Пятніца, 27 лістапада 1998 г. № 128 (520) Кошт свабодны

# СВАБОДА

Забаронена 24 лістапада 1997 г.

*Дэпутату Еўрапарламента не хацелі даваць візу ў Беларусь*

## Мінск уводзіць візавыя санкцыі?

**Беларускія ўлады не пусцілі дэпутата Еўрапейскага парламента Элізабэт Шродтэр у Беларусь. Яна — першы заходнееўрапейскі палітык, якой быў забаронены ўезд на тэрыторыю нашай краіны.**

Элізабэт Шродтэр паведаміла, што ў мінулы аўторак беларуская амбасада ў Бруселі (Бельгія) адмовіла ёй ва ўязной візе. Спадарыня Шродтэр збіралася правесці ў Мінску два дні — каб прыняць удзел у канферэнцыі «Трансфармацыя ці ізаляцыя», што праводзіў фонд Фрыдрыха Эберта.

Элізабэт Шродтэр прадстаўляе нямецкую партыю «зялёных» — адну з найбольш уплывовых на сённяшні дзень у Германіі. Яна ўваходзіць у камісію па сувязях Еўрасаюза з Беларуссю, Украінай і Малдовай. Дарэчы, менавіта ёй было даручана падрыхтаваць справаздачу аб будучых стасунках Беларусі з краінамі Еўрапейскага саюза.

*«Гэта правакацыя, скіраваная не толькі супраць Еўрапейскага парламента, але і супраць усяго дэмакратычнага грамадства,* — заявіла Элізабэт Шродтэр. — *Уся дзейнасць Еўрапейскага саюза па пераадоленні самаізаляцыі Беларусі будзе спыненая».*

Элізабэт Шродтэр не атрымала афіцыйных тлумачэнняў беларускага боку, чаму яе не пусцілі ў Беларусь. Учора на брыфінгу ў беларускім МЗС намеснік міністра Ніна Мазай сказала, што *«гэтае пытанне ўжо вырашанае, спадарыня Шродтэр зможа атрымаць візу»*.

**Міхась КАРПОВІЧ**

## У нашага начальства алергія на кіно

**Прадстаўніцтва ААН у Беларусі ўзяло пад свой патранаж першы міжнародны кінафестываль у абарону правоў чалавека, які пачнецца ў Мінску 30 лістапада.**

Арганізатары спадзяюцца, што з дапамогай ААНаўцаў удасца вырашыць праблему з памяшканнямі. Справа ў тым, што мінскія кінатэатры адмаўляюцца даць залы для фестываля. Значная частка праграмы разлічаная на кінатэатры «Перамога» і «Піянер». Аднак у апошні момант дырэктар кінатэатра «Перамога» заявіў, што *«не будзе працаваць з фестывалем»*, а дырэктар «Піянера» адмовіўся прадаставіць залу, спаслаўшыся на *«меркаванне зверху»*. На нядаўняй прэс-канферэнцыі арганізатары фестывалю запэўнілі, што ён адбудзецца, нават калі паказваць фільмы давядзецца *«на стадыёне ці ў прадстаўніцтве ААН»*.

Як сцвярджае прадстаўніца кінавідэастудыі «Таццяна», ва ўладаў выклікаюць «алергію» некаторыя імёны і кінафільмы. На фестывалі плануецца паказаць дакументальныя стужкі «Дарога на Курапаты», а таксама «Сустрэчны іск», прысвечаны Алесю Адамовічу. Сярод «непажаданых» імёнаў значацца рэжысёр Юрый Хашчавацкі, аўтар вядомага фільма «Звычайны прэзідэнт». Нягледзячы на алергію, праграма фестывалю застанецца без зменаў.

Намеснік міністра культуры Юрый Цвяткоў сказаў нам, што дзяржава не збіраецца *«фінансава і арганізацыйна падтрымліваць гэты нясапланаваны фестываль»*.

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

## «Бацьку» выразалі

**Штотыднёвік «Имя» выйшаў учора з белай плямай на апошняй паласе.**

На гэтым месцы пад загалоўкам «Народ, я пакутую разам з табой» рэдакцыя змясціла фотакалаж, дзе быў адлюстраваны вусаты вязень канцлагера. Аднак друкарня адмовілася выпускаць у свет нумар з такой «крамолай». Давялося «бацьку» выразаць.

**Андрэй ПРАКАПОВІЧ**

## Долар расце

**Учора на «чорным» рынку наяўнай валюты ў Мінску долар куплялі па 210.000—215.000 і прадавалі па 220.000—225.000 рублёў.**

Тым часам афіцыйны курс Нацбанка дасягнуў аж 77 тысяч рублёў за долар.

**Б.П.**



*Такі народ не прападзе!*

# Прэзідэнцкія выбары прызначыць Шарэцкі

*Вярхоўны Савет Беларусі 13-га скліканняя плануе прызначыць дату правядзення прэзідэнцкіх выбараў*

9 лютага наступнага года Вярхоўны Савет 13-га склікання правядзе сесію, на якой будзе прызначаная дата правядзення прэзідэнцкіх выбараў. Такое рашэнне прынятае 24 лістапада на рабочым сходзе дэпутатаў Вярхоўнага Савета, якія засталіся вернымі Канстытуцыі 1994 года.

У дакладзе аб палітычнай сітуацыі ў Рэспубліцы Беларусь і стаўленні да будучых выбараў, з якім выступіў старшыня камісіі Вярхоўнага Савета па дзяржаўным будаўніцтве Уладзімір Савічаў, асноўны акцэнт быў зроблены на выбары ў мясцовыя Саветы, якія плануецца правесці ў наступным годзе. Аднак падчас дыскусіі парламентарыі Валерый Шчукін, Станіслаў Шушкевіч, Анатоль Лябедзька, Віктар Ганчар, Вячаслаў Герасіменка, Людміла Грязнова і іншыя гаварылі аб тым, што пытанне аб удзеле ў выбарах у мясцовыя Саветы — гэта не прэрагатыва Вярхоўнага Савета. Палітычныя партыі, грамадскія арганізацыі самастойна вырашаць гэтую праблему, а для Вярхоўнага Савета галоўная задача — прызначыць у тэрмін да 20 лютага 1999 года дату новых прэзідэнцкіх выбараў.

Уладзімір Нісцюк гаварыў пра тое, што Вярхоўны Савет павінен мець канцэпцыю дзеянняў на будучае, асабліва пачынаючы з 21 ліпеня 1999 года, калі легітымнасць прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі можа быць спыненая.

Дэпутат Віктар Ганчар лічыць, што правядзенне прэзідэнцкіх выбараў у наступным годзе магчымае. Ён упэўнены, што можна арганізаваць працу выбарчых камісіяў — ад Цэнтральнай да ўчастковых. Адзіная праблема, на думку Віктара Ганчара, — як рэальна арганізаваць галасаванне. Аднак і гэта можа быць вырашана намаганнямі Вярхоўнага Савета і палітычных партыяў.

Такім чынам, 9 лютага пройдзе сесія Вярхоўнага Савета, на якую будуць запрошаныя ўсе без выключэння дэпутаты, абраныя народам у Вярхоўны Савет Беларусі 13-га склікання, а 15 студзеня пройдзе рабочы сход парламентарыяў, на якім будуць разгледжаныя дакументы па правядзенні прэзідэнцкіх выбараў у першым чытанні. Рыхтаваць іх будзе спецыяльная камісія на чале з Сямёнам Шарэцкім.

*БелаПАН*

# Нацбанк даганяе «чорны» рынак

**Нацыянальны банк Беларусі пачаў купляць валюту ў насельніцтва і фірмаў па падвышаным курсе. Праўда, толькі безнаяўную валюту і толькі за безнаяўныя рублі.**

У дэпартаменце інфармацыі Нацыянальнага банка нам паведамілі, што кожны грамадзянін або прадпрыемства, што мае на сваім рахунку ў любым беларускім банку валюту, можа прадаць яе Нацбанку па выгадным курсе. Курс вызначаецца на падставе каціровак міжнароднага фінансавага агенцтва *Reuters* (учора, напрыклад, адзін долар ацэньваўся *Reuters* у 200 тысяч беларускіх рублёў).

Канешне, прапановы Нацбанка выглядаюць даволі сціплымі ў параўнанні з магчымасцямі «чорнага» рынку (апошнім часам на «чорным» рынку долар пры безнаяўных разліках каштаваў каля 350 тысяч рублёў). Тым не менш, гэта першая легальная магчымасць прадаць сваю валюту па такім высокім курсе.

Варта зазначыць, што ні 10, ні 100 долараў Нацбанк у вас па падвышаным курсе не возьме. Ніжні парог сумы для насельніцтва вызначаны ў памеры 2.000 долараў (або эквівалент у любой іншай валюце). Юрыдычным асобам трэба будзе сабраць не менш за 10.000 долараў.

Валюту па падвышаным курсе скупляюць толькі Галоўныя ўпраўленні Нацбанка. Уся аперацыя па абмене грошай займае 1—2 дні.

У галоўным упраўленні Нацбанка па Мінску і Мінскай вобласці нам паведамілі, што прадпрыемствы ўжо ахвотна прадаюць сваю валюту Нацбанку на новых умовах. А вось насельніцтва пакуль не спяшаецца. Ёсць некалькі прычынаў: па-першае, ад людзей патрабуюць дэкларацыю аб паходжанні валюты; па-другое, Нацбанк можа разлічыцца з грамадзянамі толькі безнаяўнымі рублямі, а наяўныя грошы нельга атрымаць ніякім чынам. Безнаяўнымі рублямі, атрыманымі ад Нацбанка, можна аплаціць, напрыклад, будаўніцтва дома ці разлічыцца за тавары або паслугі.

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

## Беларускага лётчыка шукаюць у Анголе

**У Анголе знік беларускі лётчык Юрый Куцявін. Ён стаў ужо пятым пілотам з Беларусі, якія сёлета прапалі без вестак на авіялініях за межамі краіны.**

Юрый Куцявін камандаваў экіпажам расійскага самалёта Ан-12. Самалёт належаў авіяцыйнаму інстытуту ў горадзе Жукоўскім пад Масквой, а ў гэтым годзе быў арэндаваны для палётаў на ўнутраныя авіялініі Анголы. Напрыканцы кастрычніка Ан-12 з 32 пасажырамі і чатырма членамі экіпажа вылецеў з Луанды і знік з радараў падчас навальніцы. У Анголе абмяркоўваюцца тры версіі: аварыя ў выніку навальніцы, захоп самалёта апазіцыянерамі з групоўкі УНІТА ці захоп крымінальнікамі з мэтай атрымаць выкуп за багатых пасажыраў. Апошняй версіі прытрымліваецца паліцыя. Яна мяркуе, што экіпаж і пасажыры знаходзяцца ў адным з лясных лагераў, магчыма нават за межамі Анголы.

У 50-гадовага Юрыя Куцявіна ў Мінску жыве сям'я. Пасля звальнення з войска ён некаторы час працаваў у беларускай фірме «Тэхавіясервіс», але год таму звольніўся і з'ехаў шукаць лепшай долі ў Маскву.

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

### *Візіт*

***Сёння мэр Масквы Юрый Лужкоў наведае сталіцу Беларусі з аднадзённым рабочым візітам. Ён сустрэнецца з прэзідэнтам А.Лукашэнкам, а таксама мінскім мэрам У.Ярмошыным.***

### *Праект*

***Ніжняя палата прэзідэнцкага парламента прыняла ў сераду ў першым чытанні праект закона «Аб выбарах дэпутатаў мясцовых Саветаў». Законапраект быў прыняты аднагалосна. Чакаецца, што ў другім чытанні дакумент будзе разглядацца 18 ці 19 снежня.***

### *Працэс*

***Працэс па справе былога старшыні «Рассвета» Васіля Старавойтава пачнецца 30 лістапада ў судзе Кіраўскага раёна Магілёўскай вобласці. Двойчы героя перавязуць з Мінскай турмы КДБ у Бабруйскі следчы ізалятар.***

*Гродна*

## Масла па графіку

**У сераду ў Гродне збіраліся «антыкрызісныя» камісіі — гарадская і абласная, начальства думала, як задаволіць насельніцтва прадуктамі.**

Праблема з цукрам нібыта вырашаная: як толькі ўзнялі цану да 72 тысяч за кілаграм, то чэргі адразу зніклі. Дабро на павышэнне цаны на масла пакуль не атрыманае, таму, каб усе ахвотныя маглі яго купіць, у магазінах з 26 лістапада ўсталяваны «спецграфік». Адзін дзень масла будуць прадаваць з 8 раніцы, на наступны — пасля абеду, на трэці дзень — з 18 гадзінаў.

Самая складаная праблема — дэфіцыт курыных яек і малочных прадуктаў. Тлустасць смятаны знізілася, але яе ўсё адно цяжка купіць.

Наяўнасць прадуктаў у крамах Гродна і суседніх раёнаў праверыў сталічны «куратар» Гродзенскай вобласці віцэ-прэм'ер Леанід Козік. Ён адзначыў, што макарона і крупы на паліцах ёсць.

**Сяргей МАКСІМОВІЧ**

*Гомель*

## Як вы, братцы, не садзіцеся...

**Мэр Гомеля А.Якабсон адмяніў сваё ж распараджэнне аб продажу масла, цукру і яек у гарадскіх крамах толькі пасля 16 гадзінаў.**

«Каменданцкая гадзіна» для тавараў першай неабходнасці пратрымалася ўсяго тыдзень. Гэтага часу хапіла, каб абураныя вячэрнімі даўкамі і неразбярыхай у крамах гамяльчане закідалі гарвыканкам скаргамі і патрабаваннямі адмяніць неразумнае рашэнне. Вось што напісала ў лісце гамяльчанка В.: «Раней я заходзіла ў краму і адразу бачыла, што ў ёй пуста, ішла ў другую, потым у трэцюю і так пакуль не трапляла на яйкі або цукар. А цяпер я падыходжу ў цемры да крамы і бачу натоўп народа, і ніхто не ведае, што даюць ці будуць даваць, а бывае, што так прастаіш некалькі гадзінаў на марозе, а тавару ніякага не выкінуць. Крыўдна гэта ўсё. Проста здзек нейкі».

**Уладзімір ВАЛЕЎСКІ**

## Дзіцячая міласэрнасць

**Слонімскі «Чырвоны Крыж» правёў месячнік пад дэвізам «Спяшайцеся рабіць дабро».**

Было сабрана 100 мільёнаў рублёў. Амаль палову грошай здалі дзеці. 30 мільёнаў паступіла з гарадскіх школаў і 12 — з сельскіх. Сярод прадпрыемстваў горада самую вялікую суму — 3 мільёны рублёў выдзеліў завод сухога малака. Астатнія далі па мільёну-два.

**В.В.**




***Нягледзячы на мароз, больш за тысячу прыхільнікаў апазіцыі выйшлі ў мінулы аўторак на дэманстрацыю, якую праводзілі ў Мінску дэмакратычныя партыі. Акцыя была прымеркаваная да другой гадавіны так званага рэферэндуму, у выніку якога прэзідэнт Лукашэнка ўвёў новую канстытуцыю і працягнуў свае паўнамоцтвы на два гады.***

*На здымку: дэманстранты з плакатамі «ДМБ-99» нагадваюць, што ў наступным годзе прэзідэнт павінен ісці на «дэмбель».*

*Брэст*

## Прылаўкі пусцеюць

**У кастрычніку Брэсцкая вобласць атрымала менш за 50 працэнтаў месячнай нормы шэрагу прадуктаў харчавання**

Без навагодніх падарункаў могуць застацца многія дзеці Брэсцкай вобласці, калі прадпрыемствы і арганізацыі не прыдумаюць спосаб, як закупіць кандытарскія вырабы і цукеркі за межамі краіны. Справа ў тым, што сёння на прылаўках магазінаў вобласці выбар прысмакаў абмежаваны, і цэны на цукеркі «кусаюцца» — у кастрычніку кандытары паставілі ў гандаль толькі 50 працэнтаў месячнай нормы. Спроба брэсцкіх уладаў у абмен на цвёрдыя сыры атрымаць кандытарскія вырабы з Санкт-Пецярбурга не ўвянчаліся поспехам — Мінск забараніў такі бартэр.

У крамах не хапае не толькі цукерак і пячэння: у кастрычніку гандлем атрымана толькі 50 працэнтаў месячнай нормы мяса птушкі, яек, цыгарэт. У сувязі з гэтым у лістападзе брэсцкія ўлады ўвялі не толькі новыя нормы водпуску на прадукты харчавання першай неабходнасці, але і час пачатку іх продажу — 16 гадзінаў.

*БелаПАН*

# Прафсаюзы «жартуюць з агнём»

**2 снежня ў Мінску пройдзе масавая акцыя пратэсту, арганізаваная прафсаюзамі. Людзі выйдуць на вуліцу, каб выступіць супраць росту цэнаў і падзення ўзроўню жыцця.**

Акцыю ладзяць пяць буйнейшых прафсаюзаў з розных галінаў прамысловасці: машына- і прыборабудаўнікі, радыёэлектроншчыкі, работнікі «абаронкі», а таксама вучоныя — прафсаюз Нацыянальнай акадэміі навук далучыўся да арганізатараў акцыі. Як паведаміў старшыня прафсаюза аўтамабільнага і сельскагаспадарчага машынабудавання Аляксандр Бухвостаў, арганізатары разлічваюць сабраць каля 30 тысяч чалавек. Плануецца, што ў наступную сераду (2 снежня) пасля заканчэння працоўнай змены рабочыя будуць збірацца ля прахадных сваіх заводаў і калонамі рухацца да Палаца спорту.

*«Мы разумеем, што ад адной акцыі нічога не зменіцца»*, — маркуе прафсаюзны лідэр. Толькі калі працоўныя будуць рэгулярна нагадваць ураду пра сябе і свае праблемы, нешта можа зрушыцца ў лепшы бок. Таму, на думку А.Бухвостава, асноўная задача прафсаюзаў — не пагасіць незадаволенасць грамадзянаў, а сканцэнтраваць яе і накіраваць на радыкальнае змяненне палітыкі ўрада. *«Урад сёння няздольны вырашаць сацыяльныя праблемы»*,— сцвярджае А.Бухвостаў.

Прафсаюзны лідэр зазначыў, што, хутчэй за ўсё, шэсце 2 снежня будзе апошняй сёлетняй акцыяй пратэсту. *«Ёсць толькі два магчымыя варыянты развіцця падзеяў: ці прафсаюзы, як гэта было ў савецкія часы, займуць «сваё месца» і не будуць высоўвацца, ці сітуацыя зменіцца, і прафсаюзы нарэшце будуць мець належную вагу ў грамадстве, сапраўды вырашаць праблемы працоўных»*,— лічыць А.Бухвостаў.

Тым часам, Аляксандр Лукашэнка выступіў з рэзкай крытыкай прафсаюзаў. Адказваючы на пытанні журналістаў пры наведванні мінскіх прадпрыемстваў харчовай сферы ў мінулы аўторак, ён абвінаваціў прафсаюзнае кіраўніцтва ў злоўжываннях і спробах «раскачаць сітуацыю ў краіне». *«Я хачу сказаць тым палітыкам, асабліва так званым прафсаюзам, няхай лепш з агнём не жартуюць, таму што я ж народу магу расказаць, чым займаюцца гэтыя прафсаюзы»*.

Па словах А.Лукашэнкі, падчас нядаўняй праверкі прафсаюзнага банка былі выяўленыя шматлікія злоўжыванні. *«І вось яны адчулі, што я ж магу і жымануць, і яны пачалі хуценька падстройвацца пад сітуацыю і выводзіць рабочых на вуліцу. Хаця рабочыя няхай пагледзяць, куды ідуць прафсаюзныя ўзносы, а гэта мільярды рублёў, і хто сёння жыруе за кошт гэтых узносаў — тыя ж функцыянеры прафсаюзныя, якія хочуць вывесці людзей супраць прэзідэнта»*, — сказаў А.Лукашэнка.

Што ж датычыць імклівага росту цэнаў, дык, мяркую, прэзідэнт тут ні пры чым. *«Я нікому не дазволю перавесці стрэлкі на прэзідэнта*, — заявіў А.Лукашэнка. — *Не прэзідэнт цэны сёння ўзнімаў і, па вялікім рахунку, не ўрад. Націск адбываўся ад кіраўнікоў — работнікаў вытворчасці...»* Лукашэнка выказаўся ў тым сэнсе, што менавіта працоўныя калектывы «націснулі» на сваіх дырэктараў, каб узняць цэны.

Такім чынам, беларускі прэзідэнт чарговы раз спрабуе адгаварыцца па прынцыпе: «Сам казёл!». Звычайна такая палеміка пераходзіць у кулачную бойку. І невядома, хто пераможа ў бойцы на гэты раз: збядняўшыя і галодныя рабочыя ці сытыя супрацоўнікі «органаў» з прэзідэнтам у сэрцы і на шчыце.

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

## «Салідарнасць» не рэгіструюць

**Міністэрства юстыцыі Беларусі адмовіла ў рэгістрацыі беларускаму студэнцкаму прафсаюзу «Салідарнасць».**

Як паведаміў выканаўчы сакратар прафсаюза Юрась Губарэвіч, мінюст патрабуе прадаставіць звесткі «аб пярвічных арганізацыях або іншых арганізацыйных структурах» БСП, якія, на думку міністэрства, і павінны стаць заснавальнікамі прафсаюза. *«Іх не пераканалі нават 530 подпісаў заснавальнікаў БСП «Салідарнасць», каму ўжо споўнілася 18 гадоў і хто прадстаўляе больш за 20 ВНУ Беларусі»*, — сказаў Ю.Губарэвіч. Ён лічыць, што *«ўлады разумеюць небяспеку з боку незалежнай студэнцкай арганізацыі, здольнай стаць рэальнай альтэрнатывай БПСМ»*. «Салідарнасць» мае намер абскардзіць рашэнне міністэрства юстыцыі ў Вярхоўным судзе і, нягледзячы на адмову ў афіцыйнай дзейнасці, будзе працягваць рэгістрацыю сваіх пярвічных арганізацыяў пры Свабодным прафсаюзе беларускім.

*БелаПАН*

## Лекі з Германіі

Германская дабрачынная арганізацыя «Дапамога Гомелю» перадала гораду медыкаменты на суму 1 мільён 800 тысяч нямецкіх марак.

## Італьянца ўшанавалі

**Вучоны савет Гомельскага дзяржуніверсітэта абраў ганаровым доктарам псіхалогіі італьянскага прафесара Гаэтана Барлета.**

Гэткім чынам быў адзначаны яго асабісты ўклад у арганізацыю падрыхтоўкі практычных псіхолагаў і адкрыццё спецыяльнасці «Псіхалогія» ў ГДУ. Італьянскі прафесар ужо пяць гадоў запар выступае з лекцыямі перад гомельскімі студэнтамі і выкладчыкамі, ён жа забяспечыў неабходнай літаратурай і абсталяваннем універсітэцкую лабараторыю практычнай псіхалогіі.

Італьянец Барлет — першы з замежных навукоўцаў, які атрымаў званне ганаровага доктара ў Гомельскім універсітэце.

**Уладзімір ВАЛЕЎСКІ**

*Здарэнні*

## Застрэліўся ці застрэлілі?

**Трагічны выпадак здарыўся ў Кобрынскім раёне Брэсцкай вобласці. У вёсцы Гарадзец пры нявысветленых абставінах загінуў 42-гадовы фермер Аляксандр Глеб.**

Жонка селяніна толькі на 40 хвілінаў адлучылася з дому ў райцэнтр, а калі вярнулася, знайшла свайго мужа на падлозе з прастрэленай галавой, але яшчэ жывога. Побач ляжаў газавы пісталет фермера, з якога і быў зроблены стрэл свінцовым шротам. Перапалоханая жанчына выклікала «хуткую дапамогу», Аляксандра даставілі ў райбальніцу, дзе ён праз суткі памёр.

Аляксандр Глеб быў удачлівым гаспадаром. Узяўшы ў арэнду каля 50 гектараў зямлі, ён збіраў да 64 цэнтнераў збожжа з аднаго гектара, за што ў мінулым годзе быў прызнаны лепшым фермерам Брэсцкай вобласці. (Для параўнання, у мясцовым калгасе ўраджайнасць складае толькі 18 цэнтнераў з гектара.)

Жонка Аляксандра Глеба сцвярджае, што ў мужа не было нядобразычліўцаў, адносіны з мясцовым начальствам таксама былі неблагія. Праўда, апошнім часам з'явіліся нейкія праблемы з узятымі раней крэдытамі, але тое, што Аляксандра мог нехта забіць за своечасова не вернуты доўг, жонка не дапускае. Тым часам стала вядома, што следства схіляецца да версіі звычайнага самазабойства. Нібыта ёсць сведкі, якія сцвярджаюць, што фермер у апошнія дні свайго жыцця быў нечым моцна прыгнечаны і пастаянна насіў з сабой пісталет.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

## На іх месцы так зрабіў бы кожны?

**Двое ўчастковых інспектараў уратавалі жыццё жыхару Гомеля Мікалаю В.**

45-гадовы Мікалай вяртаўся з работы дамоў нападпітку, пасліznуўся і, з'ехаўшы па крутым схіле кар'ера, апынуўся ў сцюдзёнай пельцы. Спробы вылезці на бераг былі безвыніковымі. На крыкі небаракі сабрался цэлы натоўп зацікаўленых дарадцаў, але ніхто з іх палезці ў ваду і дапамагчы страціўшаму апошнія сілы Мікалаю не рызыкнуў. Добра, што паблізу аказаліся двое міліцыянтаў. Не доўга думаючы, участковыя інспектары Сяргей Галубцоў і Алег Лакіза кінуліся ў сцюдзёную ваду і выцягнулі чалавека.

Кіраўніцтва 2-га аддзялення Чыгуначнага РАУС г.Гомеля выказала ўчастковым падзяку.

**А.К.**

# Вето на обмен мозгами

По большому счету Беларусь ничего не может предложить мировому рынку: продукция ее промышленности неконкурентоспособна.

Возникает вопрос: почему? Да потому, что не отличается она высоким качеством, зато стоит дороже аналогичной продукции, произведенной в Штатах или, допустим, в той же Польше. Таким образом, чтобы найти хоть какой-то рынок нашему товару, его надо или удешевить, или резко повысить качество. Для выхода же на мировой рынок требуется то и другое сделать одновременно.

Понятно, что последний вариант слишком дорог и требует значительных усилий и времени. Поэтому обычно начинают с массового и дешевого производства продукции, имеющей устойчивый и широкий спрос. То есть производят не то, что хотят и считают, что умеют, а то, в чем нуждается потребитель. Когда, например, открылось внешнему миру начисто лишенное ширпотреба постсоветское пространство, его моментально наводнил дешевый китайский и вообще азиатский «самострок»: от курток-пуховиков до бытовой электроники. Такой дешевой, что если сломалась — выброси, не жалко.

Но что нам китайцы, у нас своя дорога: дешевое мы не производим, качественное не умеем. Поэтому значительную часть объема нашего экспорта формирует не собственно торговля, когда за товар получают живые деньги, а бартер, когда наш товар обменивается на другой, необходимый нам товар, в пропорции «как договоримся». На государственном уровне это выглядит так: свои мясо и яйца мы меняем на необходимый для их производства газ, чтобы затем вновь обменять их на газ для нового производства...

Соответственно, чем больше мы производим, тем больше требуется газа и тем больше мяса и яиц мы должны менять. В итоге, чем больше производим мяса и яиц, тем меньше потребляем. В этом и заключается основной секрет белорусского экономического чуда.

К тому же хоть деньги есть нельзя, но нельзя есть совсем без денег. Государству же, на все его заморочки, всякие фестивали и ОМОНы, требуется гораздо больше, чем среднему гражданину. Поэтому оно требует, чтобы как можно больше белорусских товаров продавалось, а не обменивалось.

Но чем же торговать? А вот чем, отвечает правительство, и принимает 19 ноября постановление «О товарах, не подлежащих поставкам по товарообменным (бартерным) операциям». В списке продукции, которую разрешено продавать только за валюту, 18 позиций, и открывает его *«головной мозг крупного рогатого скота для производства фармацевтической продукции»*. Далее следует детальное перечисление коровьего и свиного ливера, желчь и *«слизистая оболочка тонкого отдела кишечника свиней», «стекловидное тело глаз крупного рогатого скота»* и тому подобное.

Далее в перечень белорусских ликвидов (то есть продукции, которую легко продать) входит корень валерианы, минеральные удобрения и, понятно, лесоматериалы. Правда, нет такого сырьевого ресурса, как грибы-лисички, экспорт которого монополизирован одной очень известной фирмой.

Вот и вся сермяжная правда о реальных богатствах, которыми располагает Беларусь на переходном к рыночному социализму периоде. Так что там о мозгах?...

**Константин СКУРАТОВИЧ**

*Комиссары окапываются надолго, вплоть до 2006 года. Зарплату им будут платить из нашего кармана*

# Начинать надо с собственной головы

Основной целью воссозданных на предприятиях и в организациях подразделений по «промывке мозгов» будет сохранение существующего режима, а точнее — власти Александра Лукашенко. При этом, в отличие от прежних парткомов, при формировании которых создавалась хоть какая-то видимость демократии (их все же выбирали), руководители созданных служб «информации» назначаются администрацией президента.

Как заявил на недавнем совещании «идеологов» в Мингорисполкоме заместитель руководителя администрации Иван Пашкевич, их благополучие и материальное положение будет напрямую зависеть от выполнения поставленной цели. Проще говоря, новые рабочие места и оклады напрямую привязаны к сохранению рабочего места ППРБ.

Идеологические службы создаются на всех предприятиях численностью более 300 человек (вне зависимости от форм собственности), а также в колхозах и совхозах численностью более 100 человек. Руководство предприятий не имеет права вмешиваться в их деятельность, в том числе увольнять, выносить дисциплинарные взыскания, покушаться на их материальное благополучие.

Иван Пашкевич счел нужным подчеркнуть, что в своей деятельности новые службы не должны опираться на какие-либо общественные организации (партии, профсоюзы, движения), а лишь контактировать с ними для решения поставленных задач. При этом присутствующим дали понять, что в данном контексте администрация президента не видит особой разницы между коммунистами и БНФ, официальными и свободными профсоюзами и т. д. Из чего можно сделать вывод: делиться с кем-нибудь даже малой толикой власти Лукашенко не намерен.

Был четко определен и временной отрезок существования данных институтов — 2006 год, что должно вселить новым кадрам уверенность в завтрашнем дне.

Понятно, что усиленное пропагандистское воздействие не может не принести результатов. Но насколько они окажутся полезными с точки зрения их политического использования? Ведь режиму до сих пор не удавались самые простые, имеются ввиду экономические решения, эффективность которых была бы очевидной для всех. Вместо всего этого в течение двух последних лет обществу навязывалась модель интенсивного экономического роста, которая на самом деле оказалась воплощенной химерой. Но, показательно, что едва ли не единственным, кто этого не понял, является сам Лукашенко. Буквально на днях он заявил о том, что порядок на потребительском рынке навести просто. Гораздо труднее навести порядок в головах.

С этим можно согласиться: с условием, что у самого учителя в голове уже существует этот самый порядок. А его то как раз и нет.

**Александр ГАЛЬКЕВИЧ, Константин СКУРАТОВИЧ**



# У турмах чакаюць амністыю

*Больш за 8 тысяч зняволеных могуць датэрмінова выйсці з турмаў і калоніяў*

Гэты шанц у іх з'явіўся пасля таго, як дэпутаты прэзідэнцкай палаты прадстаўнікоў днямі адобрылі законапраект аб амністыі. Не выключана, што ўжо да канца года закон будзе прыняты ў канчатковым выглядзе і ўступіць у сілу. Датэрміновае вызваленне атрымаюць адразу некалькі катэгорыяў зняволеных. Сярод іх — хворыя на сухоты і СНІД, цяжарныя жанчыны, тыя, хто ўчыніў няцяжкае злачынства па неасцярожнасці.

Дарэчы, амністыі чакаюць не толькі тыя, каму яна «свеціць». У выніку «чысткі» крыху свабодней стане ў турмах і калоніях. У месцах пазбаўлення волі знаходзіцца цяпер каля 61 тысячы чалавек, а разлічаная пенітэнцыярная сістэма толькі на 41 тысячу месцаў. Па словах намесніка міністра ўнутраных справаў Міхаіла Удовікава, дзяржаўны бюджэт сэканоміць на «амністыраваных» 72 мільярды рублёў.

Што ж тычыцца вольнага насельніцтва, то для яго амністыя ў зонах заўсёды сканчалася ўсплескам непрыемнасцяў ад вызваленых зладзеяў. Міліцыя зараз прагназуе «рэцыдыў» у памеры 10% ад усіх амністыраваных, аднак жыццёвая практыка паказвае, што не менш як кожны трэці былы «сядзелец» вяртаецца на злачынны шлях.

**Алесь ПАЎЛОВІЧ**

*Белосток*

# Помощь пришла из Парижа

**Белорусский лицей в Гайновке, один из двух белорусских лицеев в Польше, с сентября находился под угрозой отключения электричества.**

Средств, выделяемых из бюджета на содержание лицея, не хватало, чтобы оплатить счета за электричество. Последний срок погашения задолженностей истекал 30 ноября. Лицей не мог рассчитывать на дополнительные средства от министерства образования, бюджет которого покрывает только 90% потребностей школ.

Однако за неделю до того «черного» дня, когда в лицее мог окончательно погаснуть свет, руководства школы получило чек на 15 тысяч французских франков от Ежи Гедройца, главного редактора журнала «Культура» в Париже. Ежи Гедройц, родившийся в 1906 г. в Беларуси, является одним из наиболее выдающихся представителей польской эмиграции и моральным авторитетом в демократической Польше.

**Людмила ГУЛЯКЕВИЧ**

# Улада і грамадства

*У Варшаве выйшла кніга, якая мае большую цікавасць для беларусаў, чым для палякаў*

Цэнтр міжнародных стасункаў, што месціцца ў Варшаве, з'яўляецца грамадскай арганізацыяй, якая дзейнічае паралельна польскім дзяржаўным структурам. Ён праводзіць шматлікія выдавецкія і адукацыйныя праекты, у тым ліку скіраваныя і на Беларусь. Так, нядаўна выйшла кніга «Улада і грамадства. Беларусь 1991—1998» палітолагаў Сяргея Аўсянніка і Алены Стралковай. Кніга мае цікавасць як для польскага чытача, так і для грамадзянаў Беларусі.

Фактычна, гэта першае франтальнае даследаванне найноўшай гісторыі нашай краіны. Чытачу, які сочыць за палітыкай або ўдзельнічае ў ёй, кніга дапаможа «ўспомніць» і сістэматызаваць падзеі апошніх гадоў, а таксама папнаёміцца з малавядомымі фактамі. Экскурс у часы, што так незаўважна і непрыкметна сталі гісторыяй, дапаможа не паўтараць былых памылак. Напісаная лагічна, даступнай мовай кніга становіцца зразумелай нават для не зусім абазнанага ў польскай мове чытача.




Аўтары ні ў якім разе не прэтэндуюць на тое, каб кнігу вызначалі як падручнік па гісторыі, але ў значнай ступені зборнік можа служыць і навучальным дапаможнікам для моладзі, а таксама апорай для далейшых даследаванняў гісторыкаў і палітолагаў. Нейтральны, у добрым сэнсе «апалітычны» змест кнігі — дазваляе чытачу зрабіць самастойныя высновы і палітычна арыентуе аўдыторыю больш эфектыўна, чым якая-небудзь пляцоўна-трыбунная публіцыстыка.

У бліжэйшы час аўтарамі мяркуецца даследаванне тых тэм, як «Роля прафсаюзаў на Беларусі», «Гісторыя палітычных партыяў і рухаў на Беларусі», «Адраджэнне беларускай культуры», «Фарміраванне беларускай інтэлігенцыі» і інш.

**Лесь ТУР**

# Русская рулетка

## *из цикла «Частное мнение гражданина Старикевича»*

**ВНУТРИПОЛИТИЧЕСКАЯ** жизнь в Беларуси замерла. Власть ничего менять не хочет, оппозиция — не может. На этом все и успокоились.

В сложившейся ситуации на первый план выходит вопрос о возможности государственного объединения России и Беларуси. Лукашенко рано или поздно уйдет, но если предварительно он успеет похоронить суверенитет нашей страны, то перспективы станут гораздо безрадостнее. Сохранение государственности Республики Беларусь можно было бы назвать главной задачей демократической оппозиции. Но, к сожалению, она в своем нынешнем состоянии не является реальной силой и потому не способна решать сколь-нибудь серьезные задачи.

**МИЗЕРНЫ** и шансы на то, что Лукашенко отбросит свои кремлевские устремления и начнет саботировать интеграционные процессы. На протяжении четырех лет печкой, от которой в любом деле плясал глава Беларуси, являлись будущие президентские выборы в России с его участием. Теперь он оказался заложником собственной стратегии. Расчет зиждился на том, что постепенная стагнация в экономике при отсутствии реформ позволит на какое-то время сохранить внешне более благоприятное положение, нежели в России. Но первые звоночки уже прозвенели. Крах экономической политики Лукашенко неизбежен, но никто не знает, сколько времени осталось у него в запасе. Беларусы традиционно имели достаточно большой запас прочности, и когда он будет исчерпан, сказать сложно. Однако в том, что это произойдет через год, три или пять, больших сомнений нет.

Перестроиться и начать работать на решение внутренних проблем Лукашенко не в состоянии. Поэтому единственный выход для него на перспективу — сбежать от ответственности в Россию. Причем необязательно на президентскую должность. В заявлении Лукашенко о готовности согласиться в объединенном государстве на вторые-третьи роли присутствует доля правды. Может статься, что будет не до жиру...

**ТЕМ ВРЕМЕНЕМ**, как и прогнозировалось в одной из предыдущих статей цикла, у белорусского суверенитета объявились неожиданные, хотя и неявные «защитники». Российские товарищи решили, что у них самих со спасителями Отечества явный перебор и при нынешнем раскладе они справятся с этим делом и без Лукашенко. Поэтому сроки окончательной интеграции временно переносятся.

Впрочем, передышка эта может закончиться в любой момент. Беларусь в очередной раз оказалась заложником особого пути России. Такое положение в принципе не сулит нам ничего хорошего. Но, хотя бы просчитать варианты развития ситуации в любом случае не грех.

Сразу оговорюсь: я искренне желаю России добра. В этом государстве живет масса людей, заслуживающих лучшей участи. У меня у самого там хватает друзей, которым, естественно, желаешь всего хорошего. И главное, что для Беларуси гораздо выгоднее иметь процветающую и спокойную соседку нежели нищую и злую. Но...

*«Выпросил у Бога Россию Сатана»*. Эта фраза протопопа Аввакума может стать эпиграфом не только к прошлому, но, вероятно, и к будущему этой страны. Дело не в сегодняшнем кризисе — другие государства выбирались даже из более глубоких пропастей. Дело в том, что в России ничего не меняется уже на протяжении многих веков.

Так уж повелось, что те руководители государства Российского, которые тем или иным образом пытались повести его по пути реформ (Петр III, Александр II, в какой-то степени Павел I), не только безжалостно уничтожались физически, но впоследствии и морально при помощи послушных историков. Гораздо дольше на престоле держались кровавые маньяки вроде Ивана Грозного и Петра I. Историк Игорь Бунич в этой связи пишет: *«Порядок и какие-то основы государственности властям всегда удавалось поддерживать только с помощью жесточайшего государственного террора и постоянно провоцируемых внешними войнами, чтобы отвлечь от себя страшное поле лютой ненависти населения. Но когда власти приходили к выводу, что «так жить нельзя», и пытались провести маломальски либеральные реформы, немедленно начиналась война «всех против всех», а опрометчиво либеральный правитель уничтожался — часто вместе с государством»*.

*Сроки окончательной интеграции временно переносятся.*

Эти строки были написаны несколько лет назад, когда положение в России внешне казалось относительно стабильным. Сегодня они приобрели особенно тревожное звучание.

**ОЧЕРЕДНОЙ** либеральный руководитель Борис Ельцин уходит. Его много критиковали, зачастую заслуженно. Но выяснилось, что достойной замены этому в общем не идеальному президенту в столпившейся у подножия трона претендентской массовке нет. За большинством кандидатов стоят не политические, а преступные группировки.

Коммунисты, которым бесспорно принадлежит звание главных палачей русского народа, не просто подняли голову, а уже сейчас вознамерились ликвидировать гражданские свободы. Они даже не считают нужным скрывать свои истинные лица под масками. Комментируя убийство Галины Старовойтовой, Геннадий Селезнев высказал сожаление, но лишь по поводу того, что *«определенные политические силы могут превратить это в политический спектакль»*. Впрочем, беспокоился он на этот счет напрасно: пляска на чужих костях остается исключительной привилегией коммунистов. Что сам спикер вскорости и продемонстрировал, обвинив в смерти Старовойтовой *«демократических экстремистов, стремящихся повлиять на исход выборов»*.

Это самый свежий пример. При желании можно отыскать сотни других. И с учетом исторического опыта нетрудно представить себе действия этих ребят, если они дорвутся до абсолютной власти.

Поведение коммунистов вряд ли способно кого-то удивить. Вот кто действительно изумляет — так это их потенциальные жертвы. Периодически имея возможность наблюдать за российской политической элитой с близкого расстояния, я всегда поражался отсутствию у многих ее представителей чувства самосохранения. В стране, где тоталитарные режимы истребили десятки миллионов людей, по большому счету даже не попытались создать действенные защитные механизмы, чтобы не допустить повторения уже неоднократно пройденного. И на сегодняшний день единственным утешением является чье-то авторитетное мнение, что в третьем тысячелетии ТАКОЕ уже невозможно. А кто мог представить себе возможной дикую резню собственного населения в середине двадцатого века? И если она случилась несколько десятилетий назад, что помешает кровавому молоху заработать на полную мощность в обозримом будущем?

Но об этом в Москве мало кто думает. Бизнесмены и политики поглощены межклановыми разборками, в которых все средства хороши. Доходило до того, что разрабатывались планы обрушить финансовый рынок, чтобы убрать неугодного премьер-министра. Единственное, что бережно охранялось — исконная традиция воровать с размахом. Международному валютному фонду можно было напрямую переводить свои кредиты в швейцарские банки, чтобы не утруждать российского правительства лишними перечислениями.

**ПЛОХИ ДЕЛА** в России, коль на роль главной демократической силы определено движение Григория Явлинского. «Яблоко» наследует все родовые черты *«кухонной интеллигенции — вечно всем недовольной, но исправно платившей партвзносы и голосовавшей "за" на собраниях и партактивах»* (цитата из российского еженедельника «Версия»). Ожидать от него реальных действий и успехов, по меньшей мере, наивно. Лидер «Яблока» способен лишь с апломбом пророка вещать с трибун и телеэкранов, но никак не усвоит элементарные уроки истории. Этим летом Явлинский на вопрос, кого он видит в числе своих союзников, важно ответил: *«Я жду подвижек в сторону социал-демократизации от КПРФ»*. Какой проницательный политик! Не прошло и полгода, как коммунисты показали себя во всей красе.

*Привычка ходить без штанов, но в портупее, уже испортила жизнь многим поколениям россиян.*

Принципиальность Явлинского хорошо проявилась в истории с правительством Примакова. Лично озвучив инициативу выдвижения руководителя внешнеполитического ведомства на пост премьер-министра, «главный яблочник» быстренько отрекся от своего «протеже» и заявил, что за министерские должности были уплачены огромные взятки, при этом, несмотря на всеобщие просьбы, ни одного конкретного факта так и не привел. Вот такая у российской демократии, с позволения сказать, надежда.

**В ЭТИХ УСЛОВИЯХ** наиболее серьезной помехой для установления тирании в России может оказаться ее нищета. В наше время диктатура — удовольствие достаточно дорогое. КПСС затеяла перестройку и гласность, чтобы выбить под это дело западные кредиты, существование без которых уже тогда становилось проблематичным. С тех пор положение в России, мягко говоря, не улучшилось.

К тому же за последние годы под Российскую Федерацию было заложено немало мин замедленного действия. Многие губернаторы, не говоря уже о лидерах автономий, давно ощущают себя единовластными хозяевами собственных территорий, что создает благоприятную почву для сепаратизма. Едва ли они придут в восторг от перспективы вновь оказаться полностью зависимыми от центра со всеми вытекающими отсюда последствиями.

Как ни парадоксально, распад России, если он произойдет мирным путем, является для нее лучшим из возможных вариантов. В этом случае и властям, и всем остальным придется думать о хлебе насущном, который сегодня с успехом подменяется великодержавными амбициями. Привычка ходить без штанов, но в портупее, уже испортила жизнь многим поколениям россиян.

Испытывать гордость за свою страну приятно. Однако для этого должны быть основания. Перечень достижений России известен, но хочу заметить, что полеты в космос хороши тогда, когда решены основные земные проблемы. Сверхдержава действительно является таковой, только когда наряду с исполнением планетарной миссии она обеспечивает нормальную жизнь своим гражданам.

**В ЭТОЙ СВЯЗИ** стоит обратить внимание на эклектичность психологии россиян, прекрасной иллюстрацией которой являются две московские «новостройки». Воссоздание храма Христа Спасителя — вообще отдельная тема, но даже если закрыть глаза на финансирование этого мероприятия криминальными структурами, становится совершенно непонятно, как оно сочетается с возведением очередного памятника Петру I. Надо выбирать какой-то один идеал: либо православные ценности, либо психически больной император, наименьшим из грехов которого был злостный атеизм.

Сегодня существует достаточное количество источников, раскрывающих истинное лицо этого правителя России. Перечисляя многочисленные казни (указывается, к примеру, что население сибирского города Торовец, «уличенное в расколе», по приказу Петра I было посажено на кол — все до единого человека, включая младенцев), Игорь Бунич приводит и такой факт: *«В присутствии царя двадцатидвухлетней девушке* (придворной красавице Марии Гамильтон), *несмотря на ее мольбы, публично отрубают голову. Петр поднимает мертвую голову с эшафота, целует ее в губы и неожиданно для всех поднимает ее над толпой и начинает читать лекцию по анатомии, объяснять, «какая жила в голове для чего предназначена»*.

Может быть, все это клеветнические наветы русофобов? Но вот еще один автор труда по истории Александр Бушков, стоящий на вполне имперских позициях, подробно рассказывает о терроре петровских времен. Снова перечисление жестоких казней, пыток, издевательств. И еще один факт, который должен быть любопытен для тех, кто считает Петра I образцом русского патриота. Российский государь насаждал отдельные черты «западнического образа жизни» так, как нынешним и не снилось. Одним из результатов его правления стало появление дворян, которые не знали родного языка и могли изъясняться только по-французски. Подвести черту можно высказыванием признанного авторитета российской исторической науки Василия Ключевского: *«Чтобы защитить Отечество от врагов, Петр опустошил его больше всякого врага»*.

В своем политическом завещании Петр I прямо указал, что народ необходимо искусственно держать в нужде, бесправии и неграмотности, дабы легко использовать и расходовать его для государственных нужд. В последователях у него недостатка нет. Человеческая жизнь в России стоит дешевле, чем где бы то ни было. Самое страшное, что с таким положением дел смирились все или почти все.

**СЕЙЧАС** предпринимаются отчаянные попытки обеспечить хоть в каком-то виде преемственность власти. По замыслу Кремля принять державу из рук Ельцина должен Примаков. В противном случае, если в кресле президента окажется Юрий Лужков, Александр Лебедь, Геннадий Зюганов или еще кто похлеще, это будет означать неминуемый передел собственности, который без крови уж точно не обойдется. Ожидать в таких условиях серьезных инвестиций в российскую экономику не приходится. Напротив, активизируется процесс бегства капитала. Поэтому, если занавес все-таки опустится, новым эксплуататорам лозунга «грабь награбленное» достанется немногое. Россия в очередной раз разорена. И пенять россиянам кроме как на себя не на кого.

Россия снова играет в «русскую рулетку», приставляя дуло пистолета к головам своих граждан. Палец уже лежит на спусковом крючке. Пронесет или...

Тем временем Лукашенко ради собственного благополучия, прикрываясь идеями славянского братства, подталкивает к участию в этой дьявольской игре жителей Беларуси. Нам тоже не на кого будет обижаться, если не последует решительного отказа от такой чести.

**Александр СТАРИКЕВИЧ**

